

# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны,*
*дзвінскі ўзгорак,*
*каб глядзець у будучую сінь*

**ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №8 (95)**
**ТРАВЕНЬ 2019 ГОДА**

**У НЯВОЛІ**

# ПАЛІТВЯЗЕНЬ ЗМАГАЕЦЦА ЗА СВАЕ ПРАВЫ

**Пасьля двухмесячнага перапынку віцебскі праваабаронца Леанід Сьвецік атрымаў доўгачаканы ліст ад палітвязьня Міхаіла Жамчужнага. Як і ў папярэдніх сваіх лістах, Міхаіл падрабязна расказвае пра тое, як актыўна абараняе свае правы і законныя інтарэсы ў судах, пракуратурах і органах сыстэмы МУС.**

Зэк-праваабаронца Жамчужны піша пра тое, што з прыходам вясны зноў абвастрылася сытуацыя з перапіскай. "Зьнішчылі мае віншаваньні зь Вялікаднем шэрагу праваабаронцаў, у тым ліку віцяблянцы Тацяне Севярынец", – з горыччу паведамляе палітвязень.

"Не зьдзіўляйцеся, што пішу Вам ліст на выкарыстаным аркушы – у мяне скончылася папера. Напэўна, толькі заўтра (5 мая) куплю", – паведамляе пра сваю "бяду" Міхаіл Ігаравіч.

"А я зьдзівіўся такому бязладзьдзю, – адрэагаваў на гэтае паведамленьне Леанід Сьвецік. – Як можна дапусьціць, што Міхаілу даводзіцца пісаць лісты на ўжываных аркушах? Гэта абуральна! Знаходзячыся ў ПКТ, Жамчужны ня можа пазычыць паперы для пісаньня ў сукамэрнікаў. І ў гэтай сытуацыі кіраўніцтва калёніі магло пайсьці насустрач палітвязьню і даць яму магчымасьць пазычыць альбо набыць паперу. Аднак яно гэтага ня робіць. Цалкам дапускаю, што такім чынам адказныя асобы ПК-9 папросту зьдзекуюцца над зьняволеным і над тымі, з кім Жамчужны перапісваецца. Калі так, то гэта нейкая ганьба беларускай сыстэме выкананьня пакараньня!"

"Атрымаў адказ на наглядную скаргу зь Вярхоўнага Суду – прысуд пакінуты бязь зьменаў. Але паведамляецца, што па ранейшых адкрытых акалічнасьцях варта абскардзіць у пракуратуру ў межах разьдзелу 43 КПК. Упершыню за 10 гадоў чую пра падобную працэсуальную магчымасьць. Напэўна, КПК зьмяніўся. Ўлічу гэта для будучай працы. Пляную скарыстацца парадай ВС", – піша ў лісьце Жамчужны.

"Абскардзіў прафіляктычны ўлік "экстрэміста" ва ЎДВП Магілёву, а потым начальніку калёніі. Гэта дае права абскардзіць улік у судзе, бо гэты ўлік быў прызначаны, калі я ня меў аніводнага спагнаньня і меў статус "стаў на шлях выпраўленьня" і "палепшаныя ўмовы". Тытул "экстрэміста" не дазваляе мне зьвяртацца ў Камітэт па правах чалавека ААН зь індывідуальнымі скаргамі, таму што яны не разглядаюць скаргі тэрарыстаў, якія ўваходзяць у паняцьце "экстрэміст", – паведамляе палітвязень.

"Зьнікла ўжо 9-я заява за два гады на аплату вітамінаў. Ніводнай аскарбінкі не даюць. Аднак даведаўся з адказу Міністэрства аховы здароўя, што мэдчастка падпарадкоўваецца МУС згодна з пастановай МУС і Міністэрства аховы здароўя ад 27.08.2003 №202/39. Многае высьветлілася, праўда? Працягваю змагацца за жыцьцё!"

"Абскардзіў паўторна Магілёўскаму пракурору напад на мяне 24 студзеня 2018 году ў мэдчастцы калёніі. Да скаргі прыклаў доказы, якія маю. Гэта дасьць магчымасьць адмяніць усе спагнаньні і вызваліцца па дасягненьні пэнсійнага ўзросту альбо па амністыі да Дня вызваленьня Беларусі", – напісаў Міхаіл Жамчужны.

"Сёлета ўлетку споўніцца 4 гады майму ліставаньню зь Міхаілам Жамчужным. За гэты час я досыць глыбока вывучыў асабістыя якасьці Міхаіла. Лічу яго мужным, ня абыякавым да чужых праблемаў чалавекам, здольным стаяць да канца ў справе абароны правоў чалавека. Спадзяюся, што ён вытрымае ўсе выпрабаваньні і выйдзе на свабоду годным чалавекам", – характарызуе калегу праваабаронца Леанід Сьвецік.

**«Віцебская Вясна»**

**ДЭМАГРАФІЯ**

# ЧИСЛЕННОСТЬ НАСЕЛЕНИЯ БЕЛАРУСИ СОКРАЩАЕТСЯ

**В Беларуси продолжает сокращаться численность населения. За первый квартал этого года число проживающих в нашей стране уменьшилось на 9 912 человек, сообщает Белстат. То есть естественную убыль (превышение смертности над рождаемостью) не смогла перекрыть миграция.**

Численность населения сократилась за январь–март во всех регионах, за исключением Минской области (прирост за счет миграции). Меньше стало проживать людей даже в Минске. А если посмотреть на демографическую ситуацию в разрезе районов, то число родившихся превысило количество умерших только в Минском и Наровлянском.Заметнеевсегосмертность превысила рождаемость в Оршанском, Борисовском и Полоцком районах.

Миграционный прирост в целом по стране в первом квартале этого года составил 795 человек, естественная убыль — 10 707 человек. В январе–марте в Беларуси родилось 21 519 детей. Это на 2 016, или на 8,6%, меньше, чем за аналогичный период 2018-го. Число умерших составило 32 226 человек — на 76 человек меньше, чем годом ранее.

В плюс по численности населения в первом квартале удалось выйти только Минской области. Однако «прибавка» оказалась незначительной — 69 человек. Рост численности был обеспечен в области за счет миграции населения. При этом естественная убыль (превышение числа умерших над числом родившихся) в январе–марте в области составила 1827 человек, а миграционный прирост — 1896.

В некоторых областных центрах в первом квартале отмечался прирост населения. К примеру, в Бресте — на 122 человека, в Гродно — на 109. А вот в Могилеве минус — 178 человек, в Гомеле — 329, в Витебске — 227.

А вот в Минске за первый квартал численность населения сократилась на 1 145 человек. Естественная убыль в столице (превышение числа умерших над числом родившихся) в январе–марте составила 689 человек, а миграционная убыль — 456 человек. То есть в Минске не только смертность превышает рождаемость, но и уезжать из столицы стали чаще, чем приезжать на постоянное место жительства.

Напомним, в Минске на 1 января этого года проживало 1 миллион 992,8 тысячи человек. Это на 10,4 тысячи больше, чем год назад. Это рекордный показатель. Так, на начало 2018 года в столице было 1 миллион 982,4 тысячи человек, на начало 2017 года — 1 миллион 974,8 тысячи жителей, а на начало 2016-го — 1 миллион 959,8 тысячи.

Если смотреть демографическую ситуацию по районам, то число родившихся превысило количество умерших в первом квартале только в Минском (+146 человек) и Наровлянском (+19). В остальных районах за этот период больше умерло человек, чем родилось. Заметнее всего смертность превысила рождаемость в Оршанском районе (на 317 человек), Борисовском (на 268), Полоцком (на 231), Речицком (на 210), Лидском (171), Молодечненском (167). В данной статистике по районам не учитывается миграционный прирост, а по областям и Минску — учитывается.

Напомним, на начало этого года в Беларуси, по уточненным данным (ранее были опубликованы предварительные), проживало 9 миллионов 475,2 тысячи человек. Это на 16,6 тысячи человек меньше, чем годом ранее. Для сравнения: в 2017 году население уменьшилось на 12,9 тысячи, а за 2016-й — увеличилось на 6,3 тысячи человек.

За прошлый год численность белорусов выросла только в Минске и Минской области, в остальных регионах — сократилась.



Для сравнения: на начало 2001 года население Беларуси составляло 9 миллионов 957 тысяч человек. Затем численность белорусов сокращалась вплоть до 2013 года. За 2013-й численность населения выросла на 4 тысячи человек и составила 9 миллионов 468 тысяч человек на начало 2014-го.

После этого на протяжении трех лет — с 2015-го по 2017-й — продолжился рост численности белорусов. На начало 2017 года в Беларуси проживало 9 миллионов 505 тысяч человек, а на начало 2018-го — 9 миллионов 491,9 тысячи (из которых 7,4 миллиона — в городах).

По прогнозам демографов, население Беларуси будет уменьшаться и дальше. НИИ труда Минтруда сообщает, что без учета миграционных процессов численность населения Беларуси в 2030 году может составить 8 млн 964 тыс. 600 человек.

**Tut.by**

**УЛАДА І НАРОД**

# ВІНАВАТЫ «ТЭХНІЧНЫ ЗБОЙ»

**30 сакавіка актывістка БХД з Віцебскага раёну Алена Янушкоўская накіравала электронныя звароты ў Дзяржкантроль Віцебскай вобласці і ў раённую пракуратуру з нагоды парушэнняў пры будаўніцтве водаправоду ў вёсцы Суйкава.**

4 траўня, калі выйшлі ўсе тэрміны, а адказу яна так і не атрымала, актывістка патэлефанавала ў дадзеныя ўстановы, выказаўшы бязмерное здзіўленне тым што арганізацыі, якія стаяць на варце закона, самі ж яго і парушаюць.

"Люстраны адказ гэтых арганізацый быў прадказальны. У Дзяржкантролі мне адказалі, што не атрымлівалі майго звароту, усяляк выбачаліся, запэўнівалі мяне, што такога ў іх не бывае, усім адказваюць у належныя тэрміны, і папрасілі мяне паўтарыць адпраўку звароту, што я і зрабіла, і мне перетэлефанавалі, што ўсё атрымалі. У пракуратуры мой зварот быў, але не ў раённай, а ў абласной, бо ў раённай пракуратуры - у наш та час! - няма сваёй электроннай пошты, і ўсе звароты ідуць праз абласную, і там ужо перасылаюць раённым. Прычыны, па якіх мой зварот не быў разгледжаны, як ім, так і мне, былі незразумелыя, і мяне зноў такі папрасілі напісаць скаргу ў абласную пракуратуру, і паўтарыць зварот, і вось, атрымала адзін адказ", - распавяла актывістка.

У адказе адзначаюць, што зварот сапсаваўся "праз збой у перасылцы".

"Думаю што ўсім зразумела, чаму раптам, нейкім таямнічым чынам не дайшлі мае паведамленні да дадзеных арганізацый, і яшчэ раз пераконваюся, што ў нашай краіне законы не працуюць, і кантраляваць іх выкананне няма каму", - адзначыла Алена Янушкоўская.

**Навіны БХД**

ДАЎГАБУД

# КАНСУЛЬТАЦЫЯ ПАРАСЛА КУСТОЎЕМ

**Жаночую кансультацыю ў самым цэнтры Віцебску мусілі адбудаваць яшчэ ў 2013 годзе. Пакуль замест яе – адныя разваліны. Чаму будынак лякарні застаецца без увагі, і наколькі ён патрэбны гораду?**

Цагляныя сцены парастаюць кустоўем і разбураюцца. Побач іржавее будаўнічы кран. Гэтак выглядае колішні будынак радзільні № 1 у Віцебску, што на вуліцы Багдана Хмяльніцкага. Яго планавалі рэканструяваць і яшчэ 6 гадоў таму адкрыць у ім жаночую паліклініку. Але планы не ажыццявіліся.

Ірына Захарава, грамадская актывістка, Віцебск:

«Калісьці ў гэтым будынку жанчыны атрымоўвалі першую дапамогу ў захаванні дзетак. Пашпарт гэтага будынку паказвае, што ў 2013 годзе ён мусіць быць здадзены. Але як быў развалены, у руінах, без даху, так і стаіць».

А можа, Віцебску папросту не патрэбная яшчэ адна жаночая кансультацыя? Мы запыталі жыхароў гораду:

«Ёсць кансультацыі, якія вельмі загружаныя, і там сядзіш у чарзе, нягледзячы на тое, што ў цябе талончык, можаш каля гадзіны прасядзець».

«Нейкае абы-што яны могуць пабудаваць, а медычную ўстанову… Дзе даследуюцца… Адна ёсць – каля хуткай дапамогі».

«Канечне патрэбная! Адну адкрылі – вельмі далёка, не ўсім зручна дабірацца».

«Чаму нашыя чыноўнікі не могуць вылучыць грошы на рамонт гэтага будынку? Гэта кажа пра тое, што яны абыякавая да лёсу грамадзянаў, якія маглі б, калі б гэта была медычная ўстанова, прыйсці і абслужыцца».

За тое, каб паліклініку дабудавалі і ўрэшце адкрылі, мясцовыя грамадскія актывісты сабралі тры тысячы подпісаў. Іх падалі ў віцебскія гарадскі і абласны выканкамы, але выніку гэта не прынесла. На ўсе звароты жыхары гораду атрымоўвалі адпіскі, не дапамагла і сустрэча з кіраўніком галоўнага ўпраўлення аховы здароўя Віцебскага аблвыканкаму Юрыем Дзеркачом. Не атрымалі адказу і мы. Намесніца Дзеркача адмовіла ў каментары.

Людміла Кавалёва, Віцебскі аблвыканкам:

«У нас, між іншым, ёсць пэўная праца і сфера адказнасці, у тым ліку наданне інфармацыі згодна са сваёй працай. З кампетэнцыяй, з даручэннямі начальніка і так далей».

Актывісты кажуць, што ў віцебскіх уладаў на бліжэйшыя гады амбітныя планы: рэканструяваць Полацкі шляхаправод, увесці ў эксплуатацыю падземны пераход, падоўжыць праспект Будаўнікоў. Ёсць грошы і на ўстановы аховы здароўя. Што праўда, на іншыя.

Тацццяна Севярынец, грамадская актывістка, Віцебск:

«Не так даўно стала вядома, што закрываецца на рамонт паліклінікі ўнутраных справаў, якая знаходзіцца ў нас на Калініна. І на яе выдаткавана амаль 500 тысячаў рублёў. Праўда, не з гарадскога бюджэту, не з абласнога, а з рэспубліканскага. Дык чаму на тую паліклініку для міліцыянтаў грошы знайшліся, а на гэты будынак грошай няма?»

Пакуль жа мы шукаем адказу на гэтае пытанне, будынак колішняй радзільні застаецца даўгабудам, а жаночыя кансультацыі Віцебску – перапоўненымі.

**Таццяна Уласенка**
**Belsat.eu**

ЗЛАЧЫНСТВА

# НА СТУДЭНТАЎ ЗАВЯЛІ СПРАВУ

**У Віцебскім раёне шасцёра навучэнцаў каледжу зьдзекваліся з раўналетка. Гвалтам зьвязалі хлопца і знялі ўсё на відэа. Падзеі датуюцца красавіком 2018 году.**

Здарэньне адбылося ў сельскагаспадарчым каледжы Віцебскага раёну. Цяпер усе шасьцёра – фігуранты крымінальнай справы. Па версіі сьледства, год таму ў інтэрнаце яны зьвязалі хлопца і запісалі працэс зьдзеку на відэа.

Пра неадэкватны выпадк апэратыўнікі віцебскага ўпраўлення ГУБАЗіК даведаліся, дзякуючы відэа, якое было разьмешчанае ў сацыяльных сетках. Праглядаючы старонку аднаго з прадстаўнікоў «нефармальнай групоўкі», яны

натрапілі на запіс з элементамі гвалту ў дачыненьні да падлетка. Пасьля дасьледаваньня былі апазнаныя навучэнцы сельскагаспадарчага каледжу.

«Як высьветлілася, у пакоі інтэрнату шасцёра навучэнцаў каледжу (усе 2000 і 2001 годоў нараджэння) заляпілі скотчам рот хлопцу 1999 году нараджэння, звязалі яго і вынеслі ў калідор. Не хаваючыся, зламысьнікі цягалі хлопца па падлозе і перыядычна білі яго па галаве », - распавядае МУС.

Сам пацярпелы ў міліцыю не заявіў, баючыся помсты. Ведамства відэа апублікавала, але без гуку.

У дачыненьні да падазраваных распачатая крымінальная справа па ч. 2 арт. 339 Крымінальнага кодэксу (Хуліганства, здзейсненае групай асоаўб). Усім пагражае да 6 гадоў пазбаўлення волі.

Цяпер міліцыя правярае фігурантаў на дачыненне да іншых злачынстваў. Двое з іх раней ужо былі асуджаныя за крадзяжы, а яшчэ адзін прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці за распаўсюджванне нацысцкай сімволікі і экстрэмісцкіх матэрыялаў.

**Ян Сьведка**

НАРОД ВЫКАЗВАЕЦЦА

# ЖЫХАРЫ СУЙКАВА ПАРАЎНОЎВАЮЦЬ

**Васьмідзесятыя гады і сёньняшні час. Кажуць, што «цяпер адно лепей: няма таго дэфіцыту».**

Вёска Суйкава — вялікая, пагорыстая, з чатырма доўгімі вуліцамі: Полацкай, Партызанскай, Камуністычнай і Новай — 113 падворкаў. Некалі тут у васьмідесятыя гады мінулага стагодзьдзя вiравала жыцьцё. Карыстаючыся сваёй набліжанасцю да гораду, прадавалі гараджанам малоко, сьмятану, яйкі ды садавіну з гароднінай.

У часы пераменаў саўгас заняпаў, а затым і наогул сканаў канчаткова. Занялала і інфраструктура: людзі пазбавіліся самага неабходнага — вадаправоднай вады.

Наш карэспандэнт наведаў вёску, ды распытаў, калі людзям жылося лепей, тады або цяпер.

Апытаныя адзначаюць, што раней жыць было прасьцей, цікавей і весялей. На сьвяты, кшталту Купалы, весела было неймаверна! Вяскоўцы ў асноўным працавалі ў саўгасе. Цэлае поле толькі памідораў высаджвалі. Ля возера былі дзьве цяпліцы, там вырошчвалі рассаду. Была малочная ферма і ферма, дзе вырошчвалі цялятаў.

«Зь мінулага году наша Суйкаўская школа стала базавай, а былі часы, калі вучыліся па два паралельныя класы.

Саўгас разваліўся, працы людзям у вёсцы няма і забаваў ніякіх таксама няма. Раней жа некалькі разоў на год да сьвятаў давалі канцэрты. Для старых вяскоўцаў нават было дармавое кіно, а каштавала яно тады 20 капеек. Пасьля кіно — танцы.

Цяпер адно лепей: няма таго дэфіцыту. Што трэба, тое і набыў. Але, хаця раней і цяжэй было нешта набыць, затое людзі былі дружнейшыя», — кажа Тацяна Пляшкова.

Узгадвае Леанід Карунны: «Статак вясковых кароў быў вялікі. Пасьвіць няма дзе было. Цяпер амаль ніхто не трымае, прасьцей набыць малако ў краме. Моладзь не цікавіцца сельскай гаспадаркай, а старым ужо цяжка даглядаць скаціну.

Я раней працаваў кіроўцам і ў саўгасе, і ў Віцебску. Новая ферма стаіць вунь пустая, нікому непатрэбная, а ад старой нават знаку не засталося.У савецкія часы ад Суйкава і скрозь да Лётцаў зямлю пахалі, а цяпер яна травой зарасла.

Раней жыцьцё было весялейшае, а пад старасьць сталі мы нікому непатрэбныя. Ваду па нашай вуліцы вялі-вялі, так і кінулі».

Тацяна Фёдарава зьвярнула ўвагу на пэўныя змены ў паводзінах і стаўленьні людзей адно да аднаго: "Калі была маладая, было весела, а зараз людзі ці то баяцца адно аднаго, ці то ненавідзяць, у хату не заходзяць. І я без запрашэньня ні да каго не заходжу, а то падумаюць нешта ня тое. Раней людзі былі больш адкрытыя, шчырыя.

Улетку адпачывала на поўдні, шмат ездзіла да сваякоў. А цяпер, падаецца, грошай мне на такія разьезды ня хопіць. На харчаваньне, на лекі хапае, а што нам трэба ў старасьці.

Цяпер усё жыцьцё — у тэлевізары, а тады, калі на ўсю вёску іх было 2-3, то ўсё жыцьцё было на вуліцы. Замест жывых зносінаў — зносіны па тэлефоне, праз кампутар. Гэта яшчэ больш падзяляе людзей».

Марыя Навадворская прыпамянае, як працавала на ферме даяркай, як багата вырошчвалі ў саўгасе агуркоў ды памідораў.

"Калі быў дырэктарам Грунтоў, было ўсё. Потым на гэтага Грунтова пачалі казаць, што мала вырошчвае збожжавых, і яго зьнялі. А наогул тут зямля добрая, зямлі хапае. Быў у саўгасе добры сад, а затым яго прыбралі.

У вёсцы трымалі галоў сорак кароў, а да іх яшчэ цялят галоў дваццаць-дваццаць пяць. Былі авечкі, козы. Скаціну пасьвілі ў тым зьнішчаным садзе.

Жыла спакойна, ні з кім не спрачалася. А цяпер во ў мяне спрэчка з суседам за агарод, Чапляецца да мяне, высьвятляе, дзе заканчваецца мая тэрыторыя і пачынаецца ягоная. Праўда, у савецкія часы справядлівасьці трошкі было болей. Калі хто каго пакрыўдзіць, можна было паскардзіцца і знайсьці край. А цяпер пакрыўдзілі — і ніякіх краёў. Абразяць, прынізяць — і ўсё. На жыцьцё мне хапала і тады, і цяпер хапае. Пенсія ў мяне добрая», - заканчвае спадарыня Марыя.

Як грамадзкая актывістка, Алена Янушкоўская найперш зьвяртае ўвагу на парушэньне правоў вяскоўцаў. Зь яе словаў, вяскоўцы для ўладаў у адрозьненьні ад гаражанаў — грамадзяне другога гатунку.

"Вёску нішчаць. Некалі тут быў квітнеючы край: і парнікі; і пладова-ягадны пітомнік; у адкрытым грунце расьлі памідоры, агуркі — і ўсім хапала. На сёньня што атрымоўваецца? Усё саўгаснае разбураецца. Пусьцілі сюды нейкіх прадпрымальнікаў і спадзяюцца, што яны падымуць непад'ёмную ношу. Не падымуць.

Гэта добра яшчэ, што вёска побач з горадам. А была б недзе далёка, то стаяла б ужо пустая. І такіх вёсак, , дзе дажываюць свой век адны старыя, ў Заронаўскім с/с хапае.

А калі нешта для людзей робяць, то цераз пень-калоду. На двары 21 стагодзьне, а выканаўцы некампэтэнтныя, падыходы старыя. Вялікія грошы ўкладуць, натвораць такога, што для выпраўленьня даводзіцца ўкладаць дадатковыя сродкі.

Калі ў нас вадаправод вялі на Партызанскай вуліцы, мне аднаго разу давялося вяртацца дадому ўначы: на вуліцы — суцэльная жыжа. Я прыйшла забруджанай ледзь не па калена. Да чаго гідка гэтая ўлада ставіцца да людзей. Пасьля сябе пакідае проста руіны. Ніяк ня могуць прakласьці апошнія сямсот мэтраў водаправоду, грошай няма.

Добра тое, што людзі самі пачалі праяўляць ініцыятыву. Сваімі рукамі вяскоўцы зрабілі дзіцячую пляцоўку.Той, хто ня ўдзельнічаў непасрэдна, аказваў нейкую матэрыяльную падтрымку. Вёска вялікая, але другога абсталяванага месца для гульняў няма. Некаму прыходзіцца вадзіць дзяцей амаль за два кілямэтры", — падсумоўвае Алена.

**Якаў Дрозд**

## АБ'ЯВА

***Каб атрымліваць кожны нумар газеты "Дзвінскі Узгорак" паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэдэфануйце.***

***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне правa і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты "Дзвінскі Узгорак".***

***Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# БЕЛАРУСКІ ВАРЫЯНТ МІФА

**Міф пра зборачны цэх СССР адарваўся ад рэальнасці, жыве цяпер у віртуальнай прасторы ды падсілкоўваецца намаганнямі дзяржаўнай прапаганды і нагадвае міф пра Ахілеса і чарапаху..**




«Усё цячэ, усё змяняецца». Аўтарства гэтага выказвання прыпісваюць старажытнагрэчаскаму філосафу Гераклітy (каля 554–483 да н. э.), аднак мы лёгка можам знайсці яго паслядоўнікаў сярод родных бяроз і асін. Да прыкладу, у снежні 2009 года адзіны палітык (АП) надаў сярэдняй зарплаце сакральны статус. Ён паставіў перад урадам задачу такой цаной «крыві з носу» выйсці на «святую лічбу» (500 у доларавым эквіваленце) да канца 2010 года.

Але ўсё цячэ, усё змяняецца. 19 красавіка ў Пасланні–2019 тое, што на працягу дзесяці гадоў афіцыйна лічылася святым, было паніжана да будзённага: «Мы павінны стварыць людзям мінімальна нармальныя ўмовы для жыцця. А гэта перш за ўсё тыя «няшчасныя» 500 долараў».

Тут напрошваецца яшчэ адна паралель, навеяная рэшткамі школьных ведаў з антычнай гісторыі і міфалогіі. Магчыма, чытач ужо здагадаўся, што гаворка ідзе пра Ахілеса і чарапаху. Хутканогі герой не ў стане дагнаць чарапаху, бо за час, які ён марнуе на пераадоленне першапачатковай адлегласці, што аддзяляе яго ад прадстаўніка атрада паўзуноў, гэты ціхаходны прадстаўнік паспявае прапаўзці пэўную адлегласць.

З заробкам у доларавым эквіваленце ўжо дзесяцігоддзе назіраецца аналагічная гісторыя. Налічаны ў рублях заробак упэўнена расце, але гэтак жа ўпэўнена зніжаецца курс беларускага рубля. Звернемся да сакавіцкай статыстыкі. Сярэдні заробак за першы вясновы месяц склаў 1056,9 рубля, што з улікам курсу на канец месяца (2,1285 BYN / USD) адпавядала 497 доларам.

Не хапіла нейкіх 3 долараў да «няшчасных» 500. Але не хапіла. Такім чынам, узяты ўладай дзесяць гадоў таму абавязак і цяпер застаецца не дасягнутым…

**Флагманы прыспускаюць сцягі**

Айчынны варыянт старажытнагрэчаскага міфа пры жаданні можна выкарыстоўваць у якасці ілюстрацыі стану «беларускай мадэлі» на сучасным этапе яе развіцця. Але калі мы кажам пра развіццё, неабходна памятаць, што яно бывае як са знакам «+», так і са знакам «–». У другім выпадку правільней казаць не пра развіццё, а пра дэградацыю…

«Беларуская эканоміка, — пераконваў 19 красавіка дэпутатаў і народ АП, — і надалей працягне будавацца на аснове развіцця буйных прадпрыемстваў і вытворчасцяў. Гэта наш бясспрэчны прыярытэт».

Наколькі такое вызначэнне прыярытэтаў пацвярджаецца афіцыйнай статыстыкай? Для адказу на гэтае пытанне звернемся да раздзелу «Структура валавога ўнутранага прадукту па відах эканамічнай дзейнасці» на сайце Белстата. У 2009 годзе ўклад апрацоўчай прамысловасці ў ВУП склаў 22,5%, а ў 2017 годзе — 21,6%. Досыць сціпла, калі параўнаць з укладам у ВУП сектара паслуг: у 2009 годзе — 42,2%, 2017-м — 47,7%.

Беларуская эканоміка даўно ўжо стала эканомікай паслугаў, а не эканомікай прамысловай вытворчасці, што адпавядае сусветнай тэндэнцыі. Аднак з вокнаў Палаца Незалежнасці змены, што адбыліся ў структуры эканамічнага складніку «беларускай мадэлі», разглядзець не атрымліваецца.

Што тут можна параіць? Адказ на гэтае пытанне ўтрымліваецца ў звароце АП да Савета Міністраў: «Трэба ўсім нам апусціцца на зямлю і быць бліжэй да людзей. Я часта кажу: калі не ведаеш, што рабіць, ідзі да людзей — яны табе падкажуць і дапамогуць».

У Пасланні–2019 прадукцыі МТЗ, МАЗ і БЕЛАЗ быў нададзены статус нацыянальнага здабытку. Дададзім да пералічаных прадпрыемстваў «Атлант» і «Гарызонт» з «Віцязем» — і з дапамогай табліцы ацэнім дынаміку развіцця/дэградацыі нацыянальнага здабытку за дзесяць гадоў.

**Пра поўную тэхналогію ўтрымання дойнага статку**

Прапаную прайсціся далей па тэксце Паслання–2019: «Па кожным кірунку неабходныя праекты будучыні, якія адпавядаюць лепшым сусветным тэндэнцыям. Новыя вытворчасці і тэхналогіі, а значыць — тавары. Пры гэтым неабходна думаць не пра тое, колькі мы здольныя вырабіць, а пра тое, куды і колькі зможам прадаць».

Для разумення ўсёй глыбіні прыведзенай цытаты нам давядзецца звярнуцца да паняцця «мадэрнізацыя, якая даганяе». У XVII–XVIII стагоддзях пратэстанцкія краіны Паўночнай Еўропы з

*(працяг на стар. 4)*

**ДЫНАМІКА ВЫПУСКУ ПРАДУКЦЫІ ФЛАГМАНАМІ БЕЛАРУСКАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ (ТЫСЯЧ ШТУК)**

| Прадукцыя | 2008 | 2017 | Змяненні* |
|---|---|---|---|
| Трактары | 69,2 | 40,8 | – 41 |
| Грузавыя аўтамабілі | 24,4 | 6,4 | – 74 |
| Самазвалы кар'ерныя (шт.) | 1887 | 1097 | – 42 |
| Халадзільнікі і маразільнікі | 1106 | 857,9 | – 22 |
| Тэлевізары | 717 | 597 | – 18 |

* У працэнтах

РЭЗАНАНС

# ШТО НЯ ТАК З АФІЦЫЙНАЙ ВЭРСІЯЙ ПРА САМАГУБСТВА?

**Хуткае пахаваньне, крымінальная справа па артыкуле за забойства, зьнішчаная вопратка і іншыя незразумелыя моманты гучнай справы.**

У першай палове дня 20 траўня, прыкладна праз 80 гадзін пасьля таго, як пад Магілёвам знайшлі цела 22-гадовага супрацоўніка ДАІ Яўгена Патаповіча, Сьледчы камітэт правёў тэрміновы брыфінг. На мерапрыемстве, якое не прадугледжвала пытаньняў з боку журналістаў і куды запрасілі толькі невялікае кола дзяржаўных СМІ, начальнік галоўнага сьледчага ўпраўленьня СК Яўген Архірэеў паведаміў, што галоўная вэрсія сьмерці афіцэра — суіцыд.

Па словах сьледчых, да такой высновы яны прыйшлі пасьля вывучэньня ўсіх акалічнасьцяў сьмерці міліцыянта, яго асабістай перапіскі і знойдзеных на месцы здарэньня сьлядоў. Тым ня менш да вэрсіі, агучанай афіцыйнымі прадстаўнікамі СК, таксама застаюцца пытаньні.

**Інфармацыю пра забойства распаўсюдзіў сам СК**

Першым пра выкраданьне афіцэра ДАІ ў Магілёве прыкладна а 20 гадзіне чацьвярга 16 траўня паведаміў тэлеграм-канал NEXTA.

«Надзвычайнае здарэньне ў Магілёўскай вобласьці! — гаварылася там. — Увесь асабісты склад абласнога УУС падняты па трывозе, а ў рэгіёне ўведзены плян „Сырэна“. Выкрадзены супрацоўнік органаў унутраных спраў — афіцэр дарожна-патрульнай службы ДАІ».

Неафіцыйныя паведамленьні пра тое, што цела супрацоўніка ДАІ знайшлі ў лесе пад Магілёвам, зьявіліся праз некалькі гадзін. Першае афіцыйнае паведамленьне пра сьмерць Яўгена Патаповіча прыйшло ад СК у той жа вечар чацьвярга. У тэлеграм-канале Сьледчага камітэту паведамілі, што завялі крымінальную справу па артыкуле 362 («Забойства супрацоўніка органаў унутраных спраў у сувязі з выкананьнем ім абавязкаў па ахове грамадзкага парадку») і што справа знаходзіцца «на асабістым кантролі» старшыні СК Івана Наскевіча. Пра «гібель падчас выкананьня службовых абавязкаў» паведаміла і МУС.

Чаму сьледчыя спачатку ўпэўнена называлі сьмерць Яўгена Патаповіча забойствам, а потым прыйшлі да высновы пра суіцыд, застаецца незразумелым.

На афіцыйным сайце СК дагэтуль (па стане на 14.00 20 траўня) гаворыцца пра расьсьледаваньне менавіта забойства, хоць крымінальную справу заводзяць і проста па факце сьмерці чалавека. Як, напрыклад, было ў выпадку сьмерці Аляксандра Коржыча.

**Кайданкі на руках**

Тое, што рукі загінулага былі ў міліцэйскіх кайданках, можна было пабачыць на апублікаваным фота зь месца сьмерці Яўгена Патаповіча. Незразумела, ці магчыма ўвогуле самому закаваць сябе ў кайданкі. А таксама — навошта гэта было рабіць. Пытаньняў дадае і інфармацыя таго ж тэлеграм-каналу NEXTA, паводле якой кайданкі на руках нябожчыка былі зашпіленыя далонямі вонкі. Пры такім спосабе нашмат складаней выконваць нейкія дзеяньні.

**Чорная «Волга»**

Паводле паведамленьняў Сьледчага камітэту, першапачатковая інфармацыя пра чорную «Волгу» з расейскімі нумарамі і пасажырамі неславянскай зьнешнасьці, якая магла зьвезьці афіцэра ДАІ ў невядомым кірунку, аказалася няпраўдзівай. Яна паходзіла ад самога загінулага, які такім чынам нібыта «хацеў паведаміць пра сваё месцазнаходжаньне».

Незразумела, якім чынам Яўген Патаповіч мог гэтак расказаць пра месца свайго меркаванага самагубства. Таксама застаецца загадкай, як ён увогуле дабраўся да месца, дзе пазьней быў знойдзены труп. Паводле СК, супрацоўнік ДАІ мог даехаць туды на неўстаноўленым пакуль спадарожным аўтамабілі. Сьледчыя цяпер высьвятляюць асобу кіроўцы, які завёз Яўгена Патаповіча ў лес.

**Прычыны самагубства**

Пра гэта таксама пакуль нічога невядома. Як вынікае з брыфінгу Сьледчага камітэту, Яўген Патаповіч ужо спрабаваў скончыць жыцьцё самагубствам, гэта здарылася ў красавіку 2019 году. Аднак застаецца незразумелым, чаму, нягледзячы на спробу суіцыду, Патаповіч заставаўся служыць у ДАІ і нават меў доступ да табэльнай зброі.

Таксама, паводле СК, з дапамогай асабістага ноўтбука загінулага апэратыўнікі атрымалі доступ да паведамленьняў, якія Патаповіч дасылаў знаёмым. Тыя паведамленьні, па інфармацыі сьледзтва, таксама зьмяшчалі інфармацыю пра магчымы суіцыд.

Пры гэтым сябры і знаёмыя Патаповіча, зь якімі размаўлялі журналісты неўзабаве пасьля яго сьмерці, адназначна характарызуюць яго як пазытыўнага маладога чалавека, які меў пляны на будучыню і быў задаволены ўмовамі службы ў ДАІ.

**Прыкметы гвалтоўнай сьмерці**

Адной з самых шакуючых дэталяў гісторыі са сьмерцю афіцэра ДАІ пад Магілёвам стаў здымак цела, апублікаваны ў тэлеграм-каналах. Яго сапраўднасьць у СК не аспрэчваюць, сьледчыя нават самі апублікавалі яшчэ адно фота, зробленае на месцы здарэньня. На абодвух здымках бачна, што труп міліцыянта аголены ніжэй поясу, у пахавай вобласьці сьляды крыві.

Паводле афіцыйнай вэрсіі, загінулы сам разьдзеўся перад сьмерцю і нават спаліў свае форменныя штаны з дапамогай загадзя падрыхтаванай гаручай вадкасьці. Навошта гэта было рабіць і ці ня можа зьнішчэньне вопраткі міліцыянта сьведчыць пра жаданьне зьнішчыць сьляды злачынства, у СК не тлумачаць. Не тлумачаць і таго, чаму Патаповіч перад сьмерцю набываў у краме дровы і рыдлёўку (відэа з камэраў назіраньня таксама паказвалі на брыфінгу ў СК).

Да таго ж у панядзелак 20 траўня СК паведаміў, што на целе ў загінулага афіцэра ня выяўлена ніякіх пашкоджаньняў, акрамя стрэлу ў галаву з табэльнай зброі. Але ўсяго за тры дні да таго, 17 траўня, на сайце СК зьявілася іншае паведамленьне. У ім гаварылася, што ўвечары 16 траўня пад Магілёвам было знойдзенае «цела 22-гадовага лейтэнанта міліцыі з прыкметамі гвалтоўнай сьмерці».

Урачыстае пахаваньне Яўгена Патаповіча адбылося раніцай 18 траўня, менш як праз двое сутак пасьля сьмерці. Пакуль невядома, ці будзе перакваліфікаваная заведзеная пасьля яго гібелі крымінальная справа. Бацькі таксама пакуль ніяк не камэнтуюць сьмерць сына.

**https://www.svaboda.org**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

(пачатак на стар. №3)

нерухомасці сярэднявечнага ўкладу жыцця здолелі перайсці ў рэжым паскоранага і бесперапыннага развіцця. Гэты працэс і сталі называць мадэрнізацыяй. Хто не паспеў, той спазніўся — і неўзабаве сутыкнуўся з неабходнасцю даганяць.

Мадэрнізацыя, якая даганяе, — гэта мадэрнізацыя міжволі, гэта адказ лузераў на выклік Захаду, што пайшоў у адрыў, і праводзілася яна не «знізу» сіламі трэцяга саслоўя, а «зверху», згодна з дзяржаўнай разнарадкай.

Ці ёсць у АП і ўрада хоць нейкі шанец абраць праекты будучыні, якія б адпавядалі лепшым сусветным тэндэнцыям? Думаю, што мінімальны. Звярніце ўвагу, гаворка ідзе выключна пра новыя вытворчасці і тэхналогіі. Гэта традыцыя. Яна фармавалася стагоддзямі ў савецкі і дасавецкі час.

Пераймаючы тэхналогіі, улада адначасова рабіла гераічныя намаганні, каб адгарадзіць насельніцтва ад культурных дасягненняў Захаду, прадуктам якіх тыя тэхналогіі і з'яўляліся. Вынік такога аднабокага асваення праектаў будучыні быў прадэманстраваны на прыкладзе аб***ай каровы на ферме агрaхолдынгу «Купалаўскі».

Нагадаю чытачам, што ініцыятарам мадэрнізацыі малочнай вытворчасці ў Беларусі ў 2012 годзе выступіў асабіста АП: «Я паставіў задачу пераўтварыць малочнатаварныя фермы ў малочнатаварныя комплексы. Адрозненне вы ведаеце: гэта захаванне поўнай тэхналогіі ўтрымання дойнага статку. Штучнае асемяненне, цэх сухастою, цэх раздою, цэх вытворчасці малака, сістэма водапаення, навозавыдалення, кармленне жывёлы — усё павінна быць па тэхналогіі! Вось што я ад вас хачу! І даручыў у кожнай гаспадарцы ўзяць любую непрыдатную ферму і пераўтварыць у малочна-таварны комплекс». Нічога не магу сказаць наконт штучнага асемянення, але навозавыдаленню як элементу тэхналогіі поўнага цыклу ўтрымання дойнага статку спецыялісты агрaхолдынгу «Купалаўскі» не далі рады, пра што і распавёў гораду і свету тэлеканал АНТ 26 сакавіка.

**Пра мух і катлеты**

Мадэрнізацыі, якія даганяюць, што дыктуюцца знешнімі выклікамі, заўсёды натыкаюцца на дэфіцыт асобасных рэсурсаў. Гэты дэфіцыт дзяржава спрабуе кампенсаваць «вельмі жорсткай дыктатурай тэхналогій і вытворчай дысцыпліны». Пасланне–2019 гэту болевую кропку «беларускай мадэлі», натуральна, не абышло. Цытую: «Ніякай дэмакратыі і балбатні! На гэта павінны быць мабілізаваныя ўсе, пачынаючы ад кіраўніка гаспадаркі, спецыялістаў і заканчваючы нашай міліцыяй. Кажу пра гэта адкрыта. Яны там не справяцца з тымі праблемамі, якія сёння існуюць у вёсцы».

Парадак на ферме без міліцыі — дэмакратыя і балбатня. Гэта можа падацца дзіўным, але іншая форма парадку на зямлі АП добра вядомая. Не выпадкова ж ён прывёў прыклад з фермерамі, якія пастаянна просяць у яго зямлю, але адмаўляюцца ад сельгаспрадпрыемстваў, фермаў і збожжатокаў. А самае галоўнае — адмаўляюцца ад сацыяльнай нагрузкі ў выглядзе вёсак з людзьмі.

У выніку аб'ядноўваць у межах «беларускай мадэлі» эфектыўную вытворчасць і моцную сацыяльную палітыку не атрымліваецца. Між тым, рэцэпт такога аб'яднання даўно ні для каго не з'яўляецца таямніцай — і палягае ён у аддзяленні мух ад катлет. Кожны павінен займацца сваёй справай: бізнес — вытворчасцю, дзяржава — сацыяльнай палітыкай на грошы, якія пералічваюцца бізнесам у выглядзе падаткаў.

Аднак для дзяржавы, якой «ёсць справа да ўсяго», такі падзел непрымальны. Тут, як і ў выпадку з крыжамі ў Курапатах, яна адчуе сябе чужой на свяце жыцця, бо любая праява грамадзянскай самастойнасці ўспрымаецца як пагроза. Аднак менавіта грамадзянская актыўнасць і дазволіла пратэстанцкім краінам Паўночнай Еўропы вырвацца ў XVII–XVIII стагоддзях з застою Сярэднявечча.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы час"**

УКРАІНА

# КАК ЗЕЛЕНСКИЙ ЗАСТАВИЛ УКРАИНЦЕВ ПЛАКАТЬ ОТ РАДОСТИ

**В ходе церемонии инаугурации, которая прошла 20 мая в Киеве в зале Верховной Рады Украины, Владимир Зеленский сделал несколько неожиданных заявлений, которые заставили аплодировать украинцев, собравшихся в правительственном квартале.**

Речь нового президента оказалась настолько яркой, что многие собравшиеся скандировали «Молодец!», а некоторые зрители, как было видно по трансляции, смахивали слезу умиления.

Что же такого особенного сказал Зеленский? «Салідарнасць» приводит наиболее интересные цитаты.

**О своей победе на выборах**

— Сегодня каждый из нас — президент. Это не моя, это наша общая победа. Каждый из нас присягнул на верность Украине. Каждый из нас погиб на Донбассе. Каждый день мы теряем каждого из нас. Каждый из нас переселенец и «заробитчанин», каждый из нас — украинец. Мы должны быть едины, ведь только тогда мы сильны.

**О возвращении украинцев**

— Сегодня во всем мире живет 65 миллионов украинцев. Я обращаюсь ко всем, кто живет в Европе, Азии, Южной и Северной Америке и Австралии. Всем, кто готов строить новую, успешную и сильную Украину, я с радостью дам украинское гражданство. Вы должны ехать в Украину домой, а не в гости. И привезите с собой, пожалуйста, свой опыт и знания.

**О войне на Донбассе**

— Наше самое первое задание — прекращение огня на Донбассе. Ради того, чтобы наши герои больше не погибали, я готов на все. Готов терять свою популярность и рейтинги. Если будет надо, готов потерять свою должность, чтобы только наступил мир. Не теряя наши территории. Никогда. Не мы начали эту войну, но нам ее заканчивать. Мы готовы к диалогу, но (переходит на русский) я уверен, что первым шагом для начала этого диалога станет возвращение всех украинских пленных.

**О портретах президента**

— Я очень хочу, чтобы в ваших кабинетах не было моих изображений, не было моих портретов. Потому что президент — это не икона, не идол. Президент — это не портрет. Повесьте туда фотографии своих детей! И перед каждым решением смотрите им в глаза

**О требованиях к Раде**

— Я очень вас прошу принять закон об отмене депутатской неприкосновенности, закон об уголовной ответственности за незаконное обогащение... Многострадальный избирательный кодекс... У вас на это будет два месяца до досрочных парламентских выборов. Я распускаю Верховную Раду VIII созыва.

**Об обещании народу**

— И напоследок, очень коротко. Дорогой народ. В течение своей жизни я пытался делать все, чтобы украинцы улыбались. Я так чувствовал сердцем, это была не только моя работа, правда. Это была моя миссия. Следующие пять лет я сделаю все, украинцы, чтобы вы не плакали. Спасибо.

**https://gazetaby.com**

ПАДЗЕЯ

# ГІСТОРЫЯ З ЦЫГАНАМІ ЯК ЛЮСТЭРКА ПАЛІТЫЧНАГА РЭЖЫМУ

**Карная акцыя супраць цыганоў — гэта дакладная ілюстрацыя функцыянаваньня паліцэйскай дзяржавы ў Беларусі.**

Знакамітая беларуская стабільнасьць зазнала чарговае выпрабаваньне. Калі ў краіне ўсё ціха і спакойна, то вонкава здаецца, што ў Беларусі поўны парадак, мір, справядлівасьць. Але стала ўжо правілам, нядобрай звычкай, што як толькі адбываецца нейкае незвычайнае здарэньне, дык адразу вылазяць на паверхню ўсе заганы існага аўтарытарнага рэжыму.

Галоўнай грамадзка-палітычнай падзеяй апошніх дзён стала справа аб гібелі супрацоўніка магілёўскага ДАІ Яўгена Патаповіча. На наступны дзень пасьля здарэньня на сайце МУС зьявіўся камэнтар: «Супрацоўнікі органаў унутраных спраў зробяць усё, каб тыя, хто зьдзейсьніў гэтае подлае злачынства, паўсталі перад судом. Пакараньне павінна быць адэкватна зробленаму».

Упоўнай адпаведнасьці з гэтай заявай міліцыя краіны была мабілізаваная на пошукі злачынцаў. Пачаліся пагромы цыганскіх пасёлкаў, масавыя затрыманьні, зьбіцьцё тамтэйшых жыхароў. То бок у звычайным рэжыме міліцыя знайшлі злачынцу ня ў стане. Для расьсьледаваньня простага крымінальнага злачынства трэба амаль што ўводзіць у рэгіёне надзвычайнае становішча.

Невядома, колькі часу гэта працягвалася б, калі б 20 траўня не прагучала як гром сярод яснага неба заява Сьледчага камітэту, што асноўная вэрсія сьмерці супрацоўніка ДАІ ў Магілёўскай вобласьці — суіцыд.

Тое, што ў гэтую вэрсію не паверыць грамадзтва, было відавочна. Гэта пацьвердзіла рэакцыя ў сацыяльных сетках. Бо вельмі вялікі недавер да ўладаў увогуле і да праваахоўных органаў у прыватнасьці. Так было і пасьля вылучэньня афіцыйнай вэрсіі і судовага прысуду па справе тэракту ў менскім мэтро.

Але больш важна, што пасьля гэтай заявы Сьледчага камітэту адразу стаў больш выразна бачны ўвесь абсурд цыганскіх пагромаў. Гэта нагадвае вядомы анэкдот пра люльку Сталіна. Не знайшоўшы сваёй люлькі, правадыр адразу ж паскардзіўся Берыі. Люльку хутка знайшлі на другім баку стала. Але тым часам Берыя пасьпеў расстраляць некалькі чалавек, прычым усе яны прызналіся ў крадзяжы. Калі б заява Сьледчага камітэту пра суіцыд спазьнілася на некалькі дзён, не выключаю, што зьявіліся б прызнальныя паказаньні нейкіх небарак.

Тое, што адбылося пасьля гэтай трагедыі зь Яўгенам Патаповічам — простая клясыка паліцэйскай дзяржавы. МУС паводзіў сябе як акупацыйнае войска на тэрыторыі чужой краіны. Калі забіваюць вайскоўца, то ўсё насельніцтва вёскі бяруць у закладнікі, пакуль ня выдадуць вінаватых.

Нічога новага. Пасьля выбуху на Дзень Незалежнасьці ў 2008 годзе сілавікі таксама пахапалі шмат людзей. Тое ж самае было пасьля тэракту ў менскім мэтро ў 2011 г. Калі пачаліся масавыя акцыі пратэсту недармаедаў у 2017 годзе, то немалая колькасьць людзей была затрымана ў справе «Белага легіёну». Стандартная лёгіка паліцэйскай дзяржавы: спачатку нахапаць шмат грамадзян, каб прадэманстраваць кіраўніцтву сваю стараннасьць, а ўжо потым разьбірацца, хто вінаваты, а раптам хто прызнаецца.

Ірэпрэсіі супраць пэўных сацыяльных групаў — таксама не навіна. У 1990-я гады пасьля вулічных акцый апазыцыі міліцыя хапала беларускамоўных. У 2000-х гадах перасьледавалі пратэстанцкія супольнасьці. У 2005 годзе шчамілі чальцоў Саюзу палякаў. Пасьля 19 сьнежня 2010 году ўлады правялі дэманстратыўна-паказальны пагром апазыцыі. Пэрыядычна ладзяцца аблавы на прадстаўнікоў ЛГБТ-супольнасьці.

Цяперашняя карная акцыя супраць цыганоў — гэта дакладны індыкатар банальнасьці зла ў беларускім варыянце.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сенеская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку** 30.05.2019 у 15.30
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.